

Жыве Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№142 (655) 20 ліпеня 1993 г. Аўторак. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 501040 экз. Кошт у розніцу — 7 руб.


## ФАКС

### Вкратце

**Вчера в Минск с официальным визитом прибыла делегация во главе с заместителем председателя правительства, министром иностранных дел Республики Словения господином Л.Петерле.**

Лойзе Петерле и сопровождающих его лиц принял Председатель Совета Министров Беларуси Вячеслав Кебич. Обсуждены вопросы, которые имеют взаимный интерес в области внутренней и внешней политики обеих государств, перспективы взаимовыгодного сотрудничества.

❑

**В Беларуси с рабочим визитом находилась правительственная делегация Республики Таджикистан во главе с премьер-министром Абдумаликом Абдуладжановым.**

Таджикского премьера и сопровождающих его лиц принял Председатель Совета Министров Беларуси Вячеслав Кебич. Обсуждены проблемы развития взаимоотношений в разных областях.

❑

**С 20 по 23 июля Минск посетит делегация военного ведомства Китайской Народной Республики.**

Цель визита, как сообщили в Министерстве обороны Беларуси, — рассмотрение перспектив сотрудничества в военной области.

❑

**2—7 ноября в Торонто пройдет 6-е собрание Мирового конгресса вольных украинцев (СКВУ).**

Участие в его работе примут украинские организации всего мира, в том числе Украины.

❑

**В воскресенье правительство Афганистана вновь обвинило Россию в обстреле деревень в приграничной с Таджикистаном полосе.**

❑

**Правящая либерально-демократическая партия Японии (ЛДП) потерпела поражение на выборах.**

Впервые за 38 лет ЛДП не будет иметь парламентского большинства.

### Новая таможенная политика Литвы

**На территории Литовской Республики вступил в действие новый таможенный режим.**

Лицензии, акцизы и другие налоги и разрешения, связанные с экспортом-импортом, отменяются. Таможенные тарифы будут зависеть от сорта и количества товара. Размеры пошлины колеблются в рамках 10—25 процентов стоимости провозимого товара. Физическим лицам без таможенной оплаты через границу Литвы разрешается провозить подарки на сумму не более 50 американских долларов. Стоимость личных вещей в эту сумму не входит. Утвержден список товаров, которые вывозить запрещено. Жестко ограничен ввоз и вывоз алкогольных и табачных изделий.

**Андрей КОРСАК.**

### Борис говорит: "Съезд, ты не прав!"

**Представитель российского президента Н.Костиков заявил, что Ельцин, возможно, будет вынужден нейтрализовать съезд народных депутатов России.**

По его словам, от 300 до 350 депутатов, выступающих в поддержку реформ, готовы отказаться от участия в заседаниях в случае, если съезд пойдет по пути блокирования конституционного проекта. Н.Костиков отметил, что это приведет к возможности объявить съезд несостоятельной и неспособной принимать решения политической структурой.

### Горы стерпят все. А люди?

**Согласно поступившим сообщениям, в результате вооруженного столкновения к востоку от Душанбе были убиты около 40 вооруженных сторонников оппозиции и 5 военнослужащих правительственной армии Таджикистана.**

Столкновение произошло после того, как одна из оппозиционных группировок численностью более 130 человек проникла на территорию Касирнихонского района. Сообщается также, что эта группировка полностью заблокирована в ущелье.

**Радио "Свобода".**

### Сараево — под покровительством Марса

**По сообщению из Боснии, позавчера ночью продолжались бои в районе стратегически важных высот в окрестностях Сараево.**

Сараевское радио сообщило, что сербская пехота при поддержке артиллерии предприняла наступление на позиции правительственных войск на горе Игман, поставив их в очень трудное положение. Кроме того, в Боснии возобновились бои между силами хорватов и мусульман.




Рисунок Олега Попова.

### В Латвии — только "латышская" медицина

**Выпускники русского потока Латвийской медицинской академии лишены права получения дипломов.**

Поступая в свое время в Рижский медицинский институт, входивший в систему образования Союза, ребята надеялись, как обычно студенты, пережить все сессии и после 6 лет серьезной работы стать полноправными специалистами. Теперь же, выполняя Закон о языках, администрация вуза категорически отказалась выдавать русскоязычным студентам дипломы без сдачи дополнительного экзамена по латышскому языку.

**Сергей ВЕРАС.**

### "Дружба" есть, а нефти нет...

**Прекратило работу в ожидании очередной порции российского сырья ПО "Нафтан".**

Перебои с нефтью, которую мы теперь можем называть "черным золотом" отнюдь не для красного словца, становятся в Новополоцке делом обычным. В июне, например, перегонные установки бездействовали пять дней подряд. По сравнению с 1991 годом поступление нефти по трубопроводу "Дружба" сократилось почти вчетверо.

**Сергей ДВИНСКИЙ.**

### Идут караваны...

**Четырнадцатый караван с гуманитарной помощью прибыл из немецкого города Остховен в Белорусский комитет защиты мира.**

Доставлены медицинское оборудование, лекарства, продовольствие на 70 тысяч марок. Гости из Германии передадут их детям-инвалидам, учащимся школы-интерната в Ивенце, ортопедическому центру в Минске, медицинским и детским учреждениям Ветковского района.

**Иван КИРИЧЕНКО.**

### "Горят" на бензине

**Все мыслимые и немыслимые рекорды бьют работники Мозырской нефтебазы.**

По плотности уголовных дел на работающую душу им нет равных ни на нефтеперерабатывающем заводе, ни на нефтеналивной станции. За неполные полгода по фактам крупного воровства бензина на нефтебазе возбуждено 18 уголовных дел, составлено более 60 протоколов за нарушение госмонополии на торговлю ГСМ, их незаконный отпуск и мелкие хищения. А личный рекорд удерживают операторы Г.Пырко, Т.Бабына и Л.Новик, "нагревшие" родное предприятие путем махинаций с документами на 30 тонн бензина и 8 тонн дизельного топлива...

**Анатолий ЛИПСКИЙ.**

### Есть ли билет на балет?

**Сетования на низменность эстетических вкусов наших сограждан все-таки несколько преувеличены.**

При полном аншлаге и даже отчасти приятных фактах спекуляции билетами прошли в Витебском Доме культуры профсоюзов двухнедельные гастроли балетной труппы Белорусского театра оперы и балета, которые завершились в минувшее воскресенье блистательным исполнением "Ромео и Джульетты" Сергея Прокофьева. Артисты ответили на восторг публики взаимностью. Руководитель балетной труппы В.Елизарьев заявил, что сцена, на которой они выступали, — лучшая в республике.

**Сергей БУТКЕВИЧ.**

### "Идите в баню" с такими ценами!

**Как сообщила заведующая одной из самых "престижных" бань Минска, из-за высоких цен на билеты баня N 7 заполняется примерно на 70 процентов.**

Душ здесь обходится в 32 рубля, общее отделение — немногим больше. И что интересно: хотя люкс с бассейном стоит 1500 рублей, они никогда не пустуют.

**Анатолий РОМАНОВИЧ.**




Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН и РИД.


*Беларусь — Кітай*





## Чанчунь вітае Мінск. Сваімі таварамі і прапановамі

**Учора ў Мінску на праспекце Машэрава ўрачыста адкрылася выстава тавараў, якія выпрабляюцца прадпрыемствамі кітайскага горада Чанчунь.**

Як адзначыў у кароткай прамове старшыня Мінскага гарвыканкама Аляксандр Герасіменка, Чанчунь — пабрацім Мінска, яго тавары карыстаюцца традыцыйна высокім попытам у пакупнікоў, а гэтая выстава — яшчэ адзін крок да ўмацавання партнёрскіх сувязей. Посуд, лекі, абутак, адзенне розных відаў, харчовыя тавары, скураныя вырабы — усё гэта прапануецца наведвальнікам выставы. І, натуральна, шырокія магчымасці ў наладжванні новых кантактаў паміж беларускім і кітайскім бакамі. Наведайце выставу — не пашкадуеце!

**Сяргей ГРЫЦ.**
**Фота аўтара.**

*Адкрыты ліст Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В.Ф.Кебічу*

## Ці даруюць нашчадкі абыякавасць?

Зыходзячы з інтарэсаў будучыні нашай незалежнай Радзімы, мы ўсе павінны нястомна працаваць у зладжанай суполцы па абароне правоў юных грамадзян Беларусі. На вялікі жаль, шматлікія факты сцвярджаюць адваротнае. У Беларусі парушаюцца практычна ўсе параграфы міжнароднай Канвенцыі па правах дзяцей, якая ратыфікавана на адной з сесій Вярхоўнага Савета. У рэспубліцы стала нормай крыўдзіць дзяцей, ушчамляюцца іх інтарэсы. Нашы дзеці да ўсяго сталі яшчэ і першымі ахвярамі і заложнікамі сучаснай перабудовы ў грамадстве. Можна бясконца прыводзіць сумныя лічбы, яскрава сцвярджаючы, што сотні, тысячы дзетак у той ці іншай меры нясуць на сабе адбітак неардынарнага лёсу, а гэта значыць, пэўны ўціск у сацыяльных, маральных, матэрыяльных адносінах. Працвітае калектыўная безадказнасць перад дзецьмі. На справе атрымліваецца: мы свядома робім сваю краіну ... бяздзетнай.

Сур'ёзна занепакоены Беларускі дзіцячы фонд маруднасцю выканання, а па сутнасці — невыкананнем зацверджанай Вярхоўным Саветам Нацыянальнай праграмы прафілактыкі генетычных вынікаў, абумоўленых катастрофай на Чарнобыльскай АЭС.

Хачу звярнуць Вашу ўвагу на канкрэтны трывожны, балючы і прыкры факт. Вось ужо 20 гадоў мусіруецца ў Беларусі праблема будаўніцтва завода па выпрацоўцы харчавання для грудных дзяцей. Важнасць і спецыфічнасць уздымаемага пытання відавочна: у Беларусі зніжаецца нараджальнасць дзяцей, мы няўмольна рухаемся да мяжы самазнішчэння. Жанчыны баяцца нараджаць і маюць на гэта падставы: у паловы з іх грудное малако ўтрымлівае атрутныя радыенукліды. Больш таго, як сцвярджаюць медыкі, 54,5 працэнта мацярок увогуле не маюць груднога малака. Кожнае чацвёртае дзіця да года пакутуе ад рахіту, анеміі, гіпатрафіі. На 40 працэнтаў павялічылася колькасць народжаных дзяцей з рознага роду адхіленнямі ў здароўі.

Малочныя кухні Міністэрства аховы здароўя задавальняюць немаўлят толькі на 0,8 працэнта іх патрэбы. Пастаўкі ў рэспубліку дзіцячага харчавання вытворчасці замежных фірм па баснаслоўных цэнах праз бізнесменаў-пасрэднікаў таксама, згадзіцеся, не лепшае выйсце. Разлічваць на рэгулярную дапамогу сем'ям з боку міласэрных айчынных і замежных арганізацый не даводзіцца. Паўстае заканамернае пытанне: дзе ўсё ж такі набываць мацяркам харчаванне для дачок і сынкоў у першы, самы адказны, асноўны год жыцця?

На паперы ўсё быццам бы прадугледжана. Ёсць рэспубліканская праграма вытворчасці прадуктаў харчавання для дзяцей ранняга ўзросту на 1991—1995 гады. Не будзем зараз усю яе аналізаваць, хаця ў гэтым ёсць пільная патрэба, а звернем увагу толькі на адзін пункт (ст. 15): "Пабудаваць Мінскі вопытна-эксперыментальны завод дзіцячага харчавання. Магутнасць — 20 тон, тэрміны будаўніцтва — 1993—1994 гады". У дакуменце вызначаны генеральны падрадчык, кошт будоўлі.

А цяпер давайце зірнём на хроніку чыноўніцкай валтузні і ў пэўнай ступені — злачынства перад дзецьмі.

21.12.1990 г. загадам N 219 міністр Ф.В.Міравчыцкі вызначае: "Прадугледзець будаўніцтва ў г.Мінску пры гармалзаводзе N3 (вул. Солтыса, раён Дражні) вопытна-эксперыментальнага завода па вытворчасці дзіцячага харчавання. Для арганізацыі будаўніцтва вырашана стварыць дырэкцыю і падпарадкаваць яе мінскаму гарадскому аграпрамысловаму камітэту...".

17.05.1991 г. III сесія Мінскага гарсавета прымае рашэнне аб будаўніцтве комплексу прадпрыемстваў для дзіцячага харчавання грудных дзяцей. У тым жа годзе кіраўніцтва гармалзавода катэгарычна адмаўляецца будаваць завод дзіцячага харчавання. Матывы два: няма імпартнага абсталявання і раён Дражні, дзе санітарныя ўмовы, канцэнтрацыя прамысловых прадпрыемстваў не дазваляюць выпускаць амаль што стэрыльнае харчаванне для немаўлят.

Шматлікія аналізы і абследаванні спецыялістаў сцвярджаюць, што ў Мінску няма ідэальна чыстага месца для такога завода. Адзіны найбольш прыгодны для гэтых мэт сельскагаспадарчы раён — Атоліна. Але Мінскі аблвыканкам катэгарычна адмовіўся займацца такой "драбязой", хаця прадукцыі завода хапіла б і дзеткам Міншчыны. "Атоліна" росчыркам чыйгосьці пяра перадалі, а справядліва кажучы, "прыхватызавалі" гаспадарчаму ўпраўленню Савета Міністраў.

Што ж датычыцца будаўніцтва завода, то ... па сённяшні дзень пляцоўка для будаўніцтва не вызначана, праект канчаткова не зацверджаны, будаўнічыя работы не распачаты. Занепакоеная размова аб мусіроўцы праекта доўгія месяцы вялася на старонках гарадской газеты "Вячэрні Мінск", журналісцкае расследаванне праблемы праводзілася рэпарцёрамі з рэспубліканскага радыё. Колькі хвалюючых сэрца пісьмаў ад адчаяўшыхся мацярок атрымаў і атрымлівае Беларускі дзіцячы фонд! Калі б усе пралітыя слёзы сабраць разам — цяжка прадказаць, якіх памераў атрымалася б возера. А хутчэй за ўсё, быў бы бурны паток, які захлынуў бы на сваім шляху ўсе бюракратычныя перашкоды.

Гарсавет і яго два ўпраўленні — гандлю і аховы здароўя — па сутнасці, самаадхіліліся ад важнага даручэння. Два гады дырэктар новабудоўлі Віктар Нічыпаравіч Капацэвіч б'ецца як рыба аб лёд — усюды яму ад варот паварот, чыноўніцкае раўнадушша. Другі б на яго месцы пры такіх выніках, адносінах да сябе, пры такой мізэрнай зарплаце кінуў бы гэтую пасаду. Але, адчуваецца па ўсім, і зыходзячы з меркаванняў спецыялістаў, сумленны ён працаўнік і вопытны "малочнік" з 30-гадовым стажам работы. І галоўнае — справу хоча давесці да канца. Спісаны кілаграмы папер на запыты і пісьмы-дазволы ў шматлікія інстанцыі, зроблены сур'ёзны аналіз стану дзяцей у рэспубліцы — цэлая навуковая брашура, пастукана амаль што ва ўсе дзверы — няма вынікаў. Гарадскія чыноўнікі нічога больш разумнага не прыдумалі, як напісаць загад (ужо трэці!) аб немагчымасці будаўніцтва завода. Іх довад: дэфіцыт валюты на будаўніцтва. Цяпер разглядаецца такі варыянт: гармалзаводу N 3 даручана арганізаваць участак па выпуску стэрылізаванага малака. Але ж стэрылізаванае малако — зусім не той прадукт, што патрэбны нованароджаным дзецям. А начальнік упраўлення Мінсксельгасхарчу Г.В.Левашкевіч, які падпісаў загад аб ліквідацыі пасады дырэктара Капацэвіча, заявіў: "Гэтай праблемай займацца не маю намеру, нам выгадней купляць гатовае харчаванне за мяжой". Вось так паклапаціліся пра наш найдаражэйшы скарб — дзяцей...

Можна яшчэ доўга апісваць чыноўніцкую валтузню і бюракратыю. Ясна адно: пра дзяцей мала хто клапоціцца, жывём, як на вулкане — адным днём. Ці даруюць абыякавасць нашчадкі?

У крытычнай сітуацыі, што склалася вакол пытання па вытворчасці харчавання, бачыцца адно рэальнае выйсце.

Як вядома, зараз вызваляюцца (у сувязі з рэканструкцыяй) вытворчыя плошчы мінскага гармалзавода N 1 у раёне вуліц Маскоўскай і Фабрыцыуса. Было б мэтазгодна перадаць гэты будынак для паэтапнага пераабсталявання пад вытворчасць прадуктаў харчавання для дзяцей груднога ўзросту. Там ёсць інжынерныя ўмовы, працуюць вопытныя кадры. Не сакрэт, туды пацягнуліся шчупальцы сучаснага бізнесу. У заводскіх карпусах ужо "кватаруюць" каля пяці кааператываў, адміністрацыя "Пінгвіна", якая грэе рукі на марожаным, сумеснае беларуска-польска-амерыканскае прадпрыемства па вытворчасці казеіну ды іншыя. Ёсць "бізнесавыя" планы і ў гарсавета і ў Міністэрства сельскай гаспадаркі, і ў Дзяржкаммаёмасці. Не дапусцім гэтага!

Аптымальным варыянтам будзе — стварыць на аснове гармалзавода N 1 самастойную асацыяцыю дзіцячага і дыетычнага харчавання для Мінска і Мінскай вобласці з далейшай арганізацыяй філіялаў па ўсёй рэспубліцы. Заснавальнікамі такой асацыяцыі маглі б стаць Міністэрства аховы здароўя, Міністэрства сельскай гаспадаркі, навукова-даследчы інстытут малочнай прамысловасці, Беларускі дзіцячы фонд.

Вышэйшы выканаўчы орган улады, які вы, Вячаслаў Францавіч, узначальваеце, павінен прыняць тэрміновыя меры. Гармалзавод N 1 зможа запрацаваць на карысць дзяцей, на радасць іх мацярок. Давайце паклапоцімся пра нашых немаўлят справай, а не словамі.

**З павагай**
**Уладзімір ЛІПСКІ,**
**прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду, пісьменнік.**

*Паведамленне Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па статыстыцы і аналізу*

### Аб індэксе спажывецкіх цэн

Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па статыстыцы і аналізу паведамляе, што ў чэрвені 1993 года ў параўнанні з маем 1993 года індэкс цэн на харчовыя і нехарчовыя тавары і паслугі, уключаныя ў "спажывецкую карзіну", склаў 141,8 працэнта.

У чэрвені 1993 года ў параўнанні са снежнем 1992 года кошт уключаных у мінімальную "спажывецкую карзіну" тавараў і паслуг вырас у 4,3 раза.

**Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па статыстыцы і аналізу.**

### Каментарый да паведамлення Дзяржкамстата Рэспублікі Беларусь аб індэксе спажывецкіх цэн за чэрвень 1993 года

**У сувязі з апублікаваннем індэкса спажывецкіх цэн за чэрвень 1993 года Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва тлумачыць:**

На падставе ўстаноўленага Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь з 1 чэрвеня 1993 года новага размеру мінімальнай заработнай платы перагледжаны размеры тарыфных ставак (акладаў), сацыяльных пенсій, стыпендый, дапамог, грашовага забеспячэння. Для правядзення далейшай індэксацыі ў якасці базавых прыняты цэны чэрвеня 1993 года, таму грашовыя даходы за ліпень г.г., атрымліваемыя насельніцтвам з бюджэтных крыніц, не індэксіруюцца.

**Дзяржкампраца Рэспублікі Беларусь.**

*Што было, тое было...*

Васіль МАЕЎСКІ

**Што калектывізацыя — справа нядобрая, я зразумеў яшчэ ў сваім дашкольным узросце. А ў апошні час памяць вярнула мяне ў дзяцінства і вымусіла расказаць сваім дзецям і ўнукам пра жыццё маіх бацькоў і іншых жыхароў маёй роднай вёскі Хізаў, што на Кармяншчыне, у гады так званага вялікага пералому.**

## Нядобрыя дзядзькі

...Памятаю, аднойчы на досвітку прыйшлі да нас у хату два чужыя, незнаёмыя мне дзядзькі. Адзін, куртаты і кручканосы, у скуранай пакамечанай тужурцы, вельмі нагадваў задзірыстага Канушыхінага пеўня, які выклеваў вока нашаму сабаку Жуку. Прысеўшы на ўслончыку, ён пры цьмяным святле "вочка" (так мы называлі газнічку) пільна ўглядаўся ў нейкія паперы. Другі, вышэзны, падобны на бадлівага суседавага бугая, апрануты ў шырокі шэры лапсардак, спыніўся ў парозе. Пазіраючы на абразы, што займалі ўвесь кут над сталом, ён незадаволена і смешна шморгнуў носам, акурат так, як наш Жук, калі я іншы раз падносіў яму нюхнуць шкіпідару, якім маці звычайна націрала ад прастуды маю стогадовую прабабку Ганну.

"І чаго яны прыйшлі так рана?" — думаў я на ложку і, з галавою ўкрыўшыся коўдрай, цікаваў праз невялічкую адтуліну, прыслухоўваючыся да размовы. І надта шкадаваў, што не ўсе словы разумеў — асабліва такія: "калгас", "абагульванне", "ферма", "сабатаж" і "сабатажнік"... Але па тым, як стаяў перад сталом засмучаны бацька і як кончыкам хусцінкі выцірала слёзы маці, адчуваў: штосьці нядобрае задумалі гэтыя незнаёмыя людзі. І не памыліўся...

Раптам кручканосы падняўся з услончыка і пачаў ушчуваць майго бацьку:

— Дарэмна супраціўляешся, Хама Паўлавіч, рабоча-сялянскай уладзе... Што ж, не хочаш па-добраму — сілком забяром карову ды і самога ў сабатажнікі запішам. Не паглядзім, што ў грамадзянскую вайну чырвоным коннікам быў, у корпусе Гая служыў...

І як ні стараўся бацька давесці, што без каровы ў вёсцы пражыць цяжка, як ні даказваў сваю адданасць савецкай уладзе (і каня, і калёсы, і ўвесь інвентар абагуліў у калгас), тыя нават і вухам не вялі. Не звярталі яны ніякай увагі і на матчыны слёзы-просьбы, каб хоць на якога паўгодзіка пакінулі Кветку ў хляве.

— Абагульванне — не наша выдумка, а каманда адтуль, — кручканосы пальцам паказаў угору. (Не ведаю, як бацька, а я зразумеў, што каманда тая ад Бога, пра якога мне часта апавядала прабабка Ганна.) І тут жа скамандаваў бугаепадобнаму: — Бяры вяроўку і чапляй за рогі кароўку!..

Бацька моўчкі стаяў ля стала. А маці залямантавала на чым свет, бегаючы па хаце; потым узяла з лавы даёнку і борздзенька памкнулася да выхаду. Але дарогу ёй перагарадзіў дзядзька ў шырокім лапсардаку, а кручканосы тым часам прарэзліва пракудахтаў:

— Ку-у-ды!? Там, на ферме, без вас і падояць, і пакормяць...

— А як жа нам бы-ы-ць?! — не сунімалася маці. — А што ж нам рабіць?!

Тут кручканосы нібыта зміласціўся і пачаў тлумачыць, што кожны дзень хто-небудзь з нашых будзе прыходзіць на ферму і пад распіску атрымліваць малако — па адна-му карцу на члена сям'і.

— І нашаму коціку таксама карац? — радасны, пацікавіўся я з-пад коўдры.

— Коціку — не паложана, — астудзіў маю радасць кручканосы і дадаў: — І бабулі Ганне — не паложана: па шнуравой кнізе яна не лічыцца членам вашай сям'і. Яна проста ваша радня...

— Госпадзі Ісусе, што ж гэта дзеецца? — запрычытала на печы прабабка. — Такога на маім вяку яшчэ ніколі не было... Нават і пры прыгонным праве...

Нядобрыя, няўмольныя дзядзькі — адзін з паперамі ў руках, другі з вяроўкаю — падаліся на двор. Маці яшчэ мацней загаласіла. Бацька ў роспачы стаяў пасярэдзіне хаты і, — я гэта добра пачуў! — вылаяўшыся, пытаўся сам у сябе: "Ці ведае пра ўсё гэта той Сталін?" А я, вынырнуўшы з-пад коўдры, скокнуў з ложка на падлогу і без штаноў, у сподняй кашулі шмыгнуў за дзверы. І ўбачыў такое, чаго ніколі не забыць. Бугаепадобны, накінуўшы на рогі Кветцы вяровачную пятлю, колькі было моцы цягнуў яе з двара, а кручканосы, сцёбаючы карову дубцом, дапамагаў сябру.

— А куды ж вы яе павялі?! — абліваючыся горкімі слязьмі, тупаў я на прыцярушаным снегам ганку босымі нагамі. — А хто ж цяпер нам малачко даваць будзе?

— Не плач, сынок, — супакойвала мяне заплаканая маці і, махаючы кулаком у бок тых нядобрых дзядзькаў, прымаўляла: — Хай яны там самі засіляцца і задушацца!..

## Безгалоўе

— Уставай, сынок, — яшчэ на золку ўзбудзіла мяне маці. — Пойдзем на хверму, па малачко...

Я хуценька апрануўся. І мы, не паснедаўшы, выйшлі з дому і накіраваліся ў канец вёскі. Трымаючыся за матчын хвартух, я з горда ўзнятай галавой — як-ніяк пры справе! — крочыў на тую хверму, якая мясцілася ў двары Ямінскага Сяргея. Што яна сабою ўяўляла, я ўжо ведаў. Якраз на другі дзень пасля таго, як забралі нашу Кветку, мы прыйшлі сюды з бацькам і ўбачылі такое... Пад павеццю, наскрозь прадзімаемай ветрам, тоўпіліся, бы непрыкаяныя, каровы, равучы на розныя галасы.

— Якое бязладдзе! Якое безгалоўе! — гледзячы на гэты кароўскі гармідар, раз-пораз кідаў бацька. — І трэба ж звесці скаціну амаль з усяго нашага Хізава ў адну кучу!... "І дзе ўбачыў бацька тое безгалоўе? — думаў я тады, уважліва прыглядваючыся да пярэстых і чарнабурых, рагатых і лабатых насельнікаў фермы. — Ёсць дзве бясхвостыя, а вось безгаловай не заўважыў аніводнай!.."

Гэткі ж кароўскі гармідар прадстаў перада мною і цяпер, калі прыйшлі мы сюды з матуляй. І я пацікавіўся ў яе:

— Чаму гэта ўвесь час каровы, нібы згаварыўшыся, рыкаюць?

— То ж яны, бедненькія, так просяць сваіх былых гаспадароў, каб вызвалілі іх з гэтай бяды-няволі і забралі дамоў, — тлумачыла маці як магла.

— І наша Кветка таксама просіць?

— І наша, сынок. Бо хто ж яе тут дагледзіць, як мы дома даглядалі, кармілі і паілі...

— А вунь тыя дзядзькі і цёткі, што ходзяць ля іх? Хіба яны не ўмеюць карміць і паіць?..

— Адны не ўмеюць, бо ніколі сваёй худобіны не мелі. Абібокі, можна сказаць. Другія — можа, і ўмеюць, ды, гледзячы на абібокаў, таксама не жадаюць працаваць як след, шукаюць лёгкага хлеба.

Вядома, не ўсё, што гаварыла маці, даходзіла да майго дзіцячага розуму. Аднак галоўнае я зразумеў па-свойму. Што абібок — гэта той, хто б'е катоў па баках, і яго я чамусьці атаясамліваў з загадчыкам фермы. А ўлікоўца — з чалавекам, які шукае лёгкага хлеба — такога, які прывозіла мне на гасцінец цётка Полька з Ленінграда мінулым летам. "Вось бы цяпер такога пульхнага і смачнага пірага ды з цёплым сырадоем", — думаў я.

Глытаючы сліну, следам за маці наблізіўся я да ўлікоўца, які звычайна выпісваў малако. Але — што гэта? Шукальнік лёгкага хлеба на хвілінку адарваў свой позірк ад папераў і, зласнавата зыркнуўшы на новы гарлачык, што маці нядаўна купіла ў заезджага гаршчэчніка, адрэзаў:

— Сёння, Пёкла, табе малака не будзе!

— Як гэта — не будзе? — абурылася маці. — А чым мне карміць вось яго? — паказала на мяне. — Ды і меншае дзіцяне малака просіць.

— Нічога не хачу знаць! — стаяў на сваім уліковец. — У вашай каровы малако перагарэла. Не доіцца!..

— Дык пры чым тут мы?! — даказвала яму маці. — Самі забралі карову, самі сапсавалі худобіну, а зараз вінаватых шукаеце.

— Нічым дапамагчы не магу, — паўтараў уліковец. — Дазволіць загадчык фермы — выпішам...

Мы — да таго загадчыка. І ён тое ж плешча. Але, нарэшце, раіць звярнуцца з пісьмовай просьбай да старшыні калгаса, калі той вернецца з нейкіх курсаў.

— Безгалоўе — і толькі! — пачуў я і ад маці тыя ж словы, што калісьці вымавіў бацька. І мы ні з чым пайшлі дахаты. І зноў усю дарогу думаў і не мог дапяць, дзе маці ўбачыла тых безгаловых. "І ў загадчыка, і ва ўлікоўца, здаецца, галовы на плячах, — разважаў я. — Пры чым жа тут безгалоўе?"

Амаль цэлы месяц чакалі мы вяртання старшыні з тых курсаў. І ўвесь гэты час выручала нас суседка Канушыха: яна кожную раніцу прыносіла нам малако ад сваёй каровы. І не толькі малако. Аднойчы прынесла мне засмажанага пеўня, які выклюнуў вока нашаму Жуку і на якога быў вельмі падобны той кручканосы дзядзька, які забраў нашу Кветку, і кажа:

— Не-е-е! Мяне і на вяроўцы не зацягнуць ў той калгас...

І пасля гэтага мне не раз снілася, як тыя два нядобрыя дзяцькі — кручканосы і бугаепадобны — цягнуць на вяроўцы аднаасобніцу Канушыху з яе хаты, а яна вырываецца ад іх і крычыць:

— Людзі добрыя, ратуйце! Не дайце ім і мяне зацягнуць у тое безгалоўе і бязладдзе!..

## Галавакружэнне

Ужо дакладна не памятаю: была нядзеля ці якое іншае свята. Але што дзень пачынаўся небудзённа, урачыста, відаць было па ўсім. Бацька, як звычайна ў такія дні, дастаў з прыскрынка брытвенныя прычындалы і, падышоўшы да невялікага круглага люстэрка, што вісела на цвічку каля акна, старанна намыльваў памазком шчаку. Маці падпаліла ў печы і, паставіўшы на ўслончык, паблізу загнета, дзежку з цестам, сальным помазам націрала дно патэльні — каб не падгаралі бліны. Я карміў коціка малаком, якое ўранні, калі яшчэ спаў, маці прынесла з фермы. Меншая сястрычка спала ў люльцы, падвешанай да бэлькі. Як кажуць, кожны быў заняты сваёю справаю. І гэтую ціхамірную сямейную ідылію раптам парушыў прарэзлівы жаночы голас з вуліцы:

— Хо-о-мка! Пё-ё-кла! Што вы там забарыліся?! Людзі пазабіралі сваіх кароў з хвермы! А вы?!.

І праз якую хвіліну ўвайшла бабка Задубка (яе так звалі таму, што родам яна з суседняй вёскі Задуб'я) — жонка старэйшага бацькавага дзядзькі Максіма — і з парога радасна абвясціла:

— Прынесла вам добрую навіну: кажуць, Сталін здурнеў! Слава Богу, ужо і наш калгас разбягаецца...

— Што ты чаўпеш, цётка! — паўшэптам перасцярог яе бацька, на хвілінку адвярнуўшыся ад люстэрка: — За такія словы мігам у каталажку запруць. Як таго Ваську Гародніка з Берастаўца. Праспяваў: "Топ-гоп, грачанікі, а ўсе жыды — начальнікі" — і загрымеў на Салаўкі.

Тым часам прыйшлі родзічы, суседзі. Усе ўзрушана радасныя! Гараська Паплаўскі не толькі пацвердзіў Задубчыну вестку, але і ўдакладніў...

— Не захварэў Сталін, — умяшаўся ў размову дзядзька Марцін, старэйшы матчын брат. — Відаць, апамятаўся, што натварыў немаведама чаго...

Не ведаю: верыў ці не бацька ўсім гэтым словам. Аднак не спяшаўся. Ён хадзіў па хаце ўзад-уперад, і мне было смешна, што адна шчака ў яго паголеная, а другая — толькі намыленая. Але я і шкадаваў, што маці дапякала яму за нерашучасць, гаварыла, што ён баязлівец.

— Не сакачы ты, — раз-пораз перапыняў ён яе. — Ведаеш: высунуся я наперад, а мяне — хоп у нерат. І так вунь новае наша начальства вочы коле: маўляў, Хомка — сын лішэнца, цвёрдазаданніка. Што бацька — хутаранін, з сынамі ўцёк ад раскулачвання ў Сібір. Такое прыпішуць! Забярэш карову — і не паспееш аглянуцца, як загоняць туды, дзе Макар цялят не пасвіў...

— Ён праўду кажа, — падтрымаў бацьку дзядзька Марцін. — Табе самой, сястра, зручней Кветку забіраць...

Радасная, маці накінула на галаву святочную гарусавую хустку, падперазала новы, з вышытымі пеўнікамі фартух і выбегла з хаты. Я подбегам пашыбаваў за ёю. Прыйшлі на двор Сяргея Ямінскага. Поўны разгром. Пад паветкаю бадзялася мо з дзесяць кароў. Глянулі мы на сваю Кветку — і вачам не паверылі. Худая, мурзатая, нейкая ўскалахмачаная. Да таго ж якаясь карова прапарола ёй бок. А галоўнае, наша Кветка, павярнуўшы галаву назад, як ачмурэлая, круцілася на адным месцы, нібыта ганяючыся за сваім хвастом.

— Зусім знявечылі худобіну! — маці ў роспачы пляснула рукамі. — Каб ім самім пакруцілі так галовы, хто прыдумаў гэтае абагульванне. Хай яго ніколі не пакідае тое галавакружэнне.

Скалечаную Кветку мы ледзь-ледзь прывялі на свой двор. Глянуў бацька на каровіны пакуты і, схамянуўшыся, кажа:

— Хадзем, сынок, на канюшню, а то і варанога нашага даканаюць...

У той дзень мы зрабілі тое ж, што і нашы суседзі. Бацька запрог свайго каня ў свае калёсы, пагрузіў на воз свой інвентар і, уручыўшы мне лейцы і пугу, блаславіў:

— Паганяй!..

Але паганяць варанога не спатрэбілася: адчуўшы волю, ён трушком вёз нас па вуліцы у напрамку свайго незабытага двара. І, памятаю, потым цэлы вечар бацька тлумачыў маці, што Сталін не здурнеў і не захварэў, а проста зразумеў нейкія свае перагібы і напісаў у газеце пра нейкае "Галавакружэнне ад поспехаў".

А праз колькі часу мы павялі хворую Кветку ў Карму і прадалі яе сталовай на мяса, а за тыя грошы ў Пятровічах купілі Лыску. І пасля ўсіх гэтых падзей яшчэ чатыры гады пражылі аднаасобна. Але, як казаў пасля бацька, гэта было ўжо не жыццё, а адны пакуты. Бо сталінскае "галавакружэнне ад поспехаў" служыла той шырмай, якой высокапастаўленыя калектывізатары прыкрывалі свае злачынствы.

*Погляд фотамастака*

Гаспадар.

Фота Міхася ЖЫЛІНСКАГА.

*Письмо парламенту и правительству*

## Транспортный беспредел

То, что делается сегодня с пригородным транспортом, уму непостижимо. Если раньше, купив билет, пассажир был уверен, что уедет в нужном направлении, сегодня на этот счет — никаких гарантий. Нет бензина, неисправен автобус, заболел водитель — в лучшем случае ответят на автобазе. Но если даже уехал — о возврате уповай на Бога.

В чем же дело? Почему у довольно четко отлаженного механизма автобусных перевозок за год-два на всех приводных шестернях выкрошились зубья?

Можно ссылаться на многое, вплоть до неразумности действий правительства по отмене платы за проезд пенсионерам вместо повышения пенсий (с точки зрения автомобилистов), однако нельзя не учитывать и явных упущений работников на местах. В этом я убеждаюсь еженедельно на маршруте Дзержинск—Ракошичи.

Водители практически никогда и никого не обилечивают на промежуточных остановках.

Не продумывают на автобазе и расписание движения. Порой выйдешь из электрички на станции Энергетик и видишь вдалеке уходящий полупустой автобус. А после оказывается — из-за нерентабельности закрыли маршрут. И это не только в Дзержинске.

Значит, снова будет подниматься плата за проезд, снова государство запустит руку в карман налогоплательщика. Так будет продолжаться до тех пор, пока Верховный Совет и Совет Министров республики дают красный свет беспределу и анархии.

**Виктор ОРЛОВ.**

*Крик души*

## По ступенькам с ... валидолом

Именно так передвигается часть жильцов дома N 83 по улице Иркутско-Пинской дивизии. Стыдно об этом писать в газету, но с 15 мая в нашем доме не работает лифт. Одна старушка после операции ходит пешком на девятый этаж. Не меньше неудобств испытывают и люди с маленькими детьми. Неоднократно обращались мы в ремонтную службу лифтов, а толкового ответа не добились. Начальник говорит, что вышедший из строя электродвигатель отвезли для ремонта в Брест, а забрать его нет возможности — нет машины. Главный инженер убеждает, что двигатель еще только собираются везти в ремонт. Выяснять, кто вводит нас в заблуждение, не хотим, ибо от этого карабкаться на девятый этаж легче не станет. На беду, стали часто отключать и воду. Приходится ходить к колонке, а потом с полными ведрами по лестничному маршу. Врачи "скорой" к нам и ехать не хотят. Уже июль, а обещаниям нет числа, и мы стали терять веру во все хорошее. Выходит, брать деньги за отсутствующие услуги в домоуправлении не стесняются. А облегчить положение жильцов не спешат.

**ВЕРЕНИЧ, ПОЛЕЩУК, КАНАПОЛЬСКАЯ, БЕРДНИК, ПАВЕЛКО и другие.**

*г.Пинск.*

*Бывало...*

## Взвесить, что ли, нищету?

У меня дома много лет лежат весы-безмен. С одной их стороны написано "Коримовъ", с другой стороны дата — 1835 год. Этим весам уже 158 лет, а они не поддаются воздействию ржавчины.

Знакомый старик говорил, что этим безменом взвешивали рыбу, пойманную в реке Друть. Он говорил, что в то время не было никаких экологов, зато была рыба по безмену, а его размер внушительный — стрела 2 метра. А сейчас в Друти осталось на всю реку 17 уклеек и ни одного ерша...

**Петр НОВИЦКИЙ.**

*Воруют!*

## Вновь все вокруг — "ничейное"...

**По поручению читателя редакция ищет дурака**

Цветные металлы, особенно медь, тащат сегодня из Беларуси все, кому не лень. В апреле нынешнего года, например, под Клецком вытащен из земли трактором и, очевидно, продан за рубеж силовой высоковольтный кабель длиной 7 километров общим весом в 28тонн! В свое время он был проложен от высоковольтной подстанции до одной из воинских частей.

По нашему требованию милиция Клецкого района, на территории которого произошло хищение и одновременный обрыв междугородней линии связи, приняла дело к производству, но тут же его прекратила... за отсутствием состава преступления. Мы обратились в Клецкую прокуратуру. Прокурор постановление об отказе в возбуждении уголовного дела отменил и направил на доследование. Однако доследование пошло по пути "расследования". Состава преступления нет, так как кабель, мол, ничейный! На начальном этапе строительства он был необходим, а когда военные провели воздушную ЛЭП, кабель стал ненужным. Трое преступников, вырвавших его из земли, как будто нашли в лесу грибы или ягоды. 28 тонн рафинированной меди высшего качества уплыло, по-видимому, за доллары в липкие руки — и комар носа не подточит.

Вот такие у нас законы. Но это еще не все. На днях я получил письменную информацию от своего руководства, где сказано, что Министерство внутренних дел Беларуси обеспокоено массовым расхищением цветных металлов. Приводятся и причины этого — плохой контроль и учет на предприятиях. Так вот, когда нас пригласили в милицию, в числе прочего мы видели и изъятые у преступников цветные металлы. Лежат они на складе, и милиция не знает, куда их девать. Заготовительная цена лома меди — 25 "деревянных" за килограмм! Если только его сдать заготовителю по этой, установленной государством цене, то он тут же перекочует в руки хапуг, а государство получит всего ничего!

Вот я и спрашиваю: какой дурак установил цену на лом цветных металлов минимум в сто раз ниже его действительной стоимости? И хочу сказать, что этот дурак сидит как раз в Доме правительства, где пока находится ваша редакция, или в других высоких домах, где варится правительственная кухня. Подойдите к нему, разбудите его и объясните, что у нас уже хотя и дикий, но рынок, и что одной из причин хищений является, простите, дурацкая государственная стоимость лома цветных металлов.

И еще. Клецкой милиции и прокуратуре помогите найти состав преступления по факту хищения и вывоза за рубеж 28 тонн меди. Только на последних 400 килограммах преступники попались. А все остальное беспрепятственно ушло. И все законно!!! Воинская часть от кабеля отрекается, кабель ей не нужен. Но я считаю, что государственное имущество не может быть ничейным.

**Г.ГОНЧАР,**
**главный инженер технического узла междугородних связей.**

*Барановичский район.*

*Репортер узнал*

## Короткого замыкания не будет. В производстве

**В два раза увеличил выпуск товаров народного потребления гомельский завод "Электроаппаратура".**

А к концу года рост достигнет трехсот процентов. Электроплитки, утюги, миксеры быстро находят своего покупателя. На подходе еще 8 изделий повседневного спроса — пылесосы, контактные системы электронного зажигания для "Жигулей", устройства для экономии электроэнергии...

Таким образом заводчане компенсируют снижение выпуска бывшей основной продукции — низковольтной аппаратуры.

**Анатолий ЛИПСКИЙ.**

*Ответьте, пожалуйста...*

## Где мне, пенсионеру, достать валюту?

Не пойму, на кого рассчитана реклама, заполонившая нынче газеты, журналы, радио и телевидение?

Турпоездки за границу, автомобили, мебель, телевизоры, стиральные машины, пылесосы и другие товары — все за конвертируемую валюту. А где ее взять простому труженику или пенсионеру, если он не дипломат, не делец "теневой" экономики и не спекулянт?

Я, кроме скромной пенсии, других доходов не имею. Рад бы купить что-нибудь за свои "деревянные", да количество их не позволяет делать серьезные покупки. У стариков под закат жизни потребность больше не в вещах, а в лекарствах. За них приходится переплачивать бешеные деньги, потому что в аптеках нет, доставать приходится с рук. Но достаем, умирать-то никому не хочется.

Думаю, что виновники создавшегося положения — не только работники здравоохранения и фармацевтической промышленности, но и внешторговцы, законспирированная аптечная мафия. Заключаются договора с западными фирмами о совместном строительстве роскошных офисов и отелей, нефть меняют на французские духи, за валюту закупают игрушки и украшения, даже средства для чистки унитазов... А вот на лекарства валюты нет.

**Иван ГОНЧАРОВ,**
**ветеран Великой Отечественной войны.**

*г.Рогачев.*

*Усміхнёмся з мастаком?*



Малюнак Алега ПАПОВА

*Обидно!*

## О прохладном отношении к полярникам

В армии не спрашивают, где хочешь служить. Одним дается море, третьим горы, а мне довелось попасть на остров Врангеля.

Служба в авиации на Севере связана с повышенным риском для жизни. Летать приходилось в сложнейших климатических условиях, включая 60-градусные морозы. При перебазировании авиачасти на Камчатку весь сержантский состав жил на двухъярусных нарах бывшей конюшни, в которой над землей выступала только крыша. Два года провели в таких условиях. В сентябре 1952 года уволился в запас. И зубы, и здоровье отнял Север. И что же? Кто защитил нас, северян не по своей воле, теперь, когда мы постарели?

Закон о пенсиях в России гарантирует социальную справедливость, а наш белорусский? Неужели так трудно было засчитать годы работы или службы на Севере один за два или один за полтора? Надо немедленно что-то исправить, иначе тысячи людей будут чувствовать себя просто обворованными государством.

**Алексей ТЯПИН.**

*г.Полоцк.*

*Нам стала вядома*

## Ці хутка выйдзе ў эфір "Еўропа плюс Мінск"?

**За які праект бярэцца маладзёжны саюз "Інтэлект"**

— Адной з нашых задач з'яўляецца павышэнне прэстыжу інтэлекту і ведаў, — гаворыць прэзідэнт саюза Віталь Агароднікаў. — Мы выступаем за цеснае супрацоўніцтва з маладзёжнымі арганізацыямі краін Заходняй Еўропы, напрамкі дзейнасці якіх нам вельмі блізкія па духу. Акрамя таго, мы выступаем за адраджэнне і развіццё беларускай нацыянальнай культуры, мовы, пашырэнне доступу беларускай моладзі да каштоўнасцей сусветнай культуры.

— У вашых планах стварэнне маладзёжнай радыёвяшчальнай праграмы "Еўропа плюс Мінск". Раскажыце, калі ласка, пра гэту радыёстанцыю, пра тое, якую праграму будзе яна мець?

— Яшчэ летам мінулага года ў нас узнікла ідэя стварэння радыёпраграмы для моладзі, паўтараю, толькі для моладзі, бо, як вядома, на Беларускім тэлебачанні і Рэспубліканскім радыё, на наш погляд, недастаткова ўдзяляецца ўвагі маладзёжнай тэматыцы, вяшчанню для моладзі. Вось мы і падумалі, чаму б нам і не заняцца такой вельмі патрэбнай справай? Скажам, для ўзроставай катэгорыі ад 15 да 30 гадоў стварыць асобную радыёпраграму, якая выходзіла б у эфір на асобнай частаце і яе маглі б прымаць і слухаць усе, хто мае свае радыёпрыёмнікі.

З гэтай мэтай мы ўступілі ў кантакт з французскім радыё "Еўропа-2", з аналагічнай радыёпраграмай "Еўропа плюс Масква". Заключылі з імі дагавор аб супрацоўніцтве і цяпер вядзём работу па набыццю неабходнага абсталявання і атрымання адпаведнай частаты для вяшчання ў эфіры. Устаноўлены таксама добрыя рабочыя кантакты з прадстаўнікамі заходніх фірм. Рэдакцыя радыёпраграмы "Еўропа плюс Мінск" зарэгістравана ўжо ў Міністэрстве інфармацыі рэспублікі.

Моладзь жадае слухаць такую праграму, вытрыманую ў класічных рамках папулярнай музыкі, інфармацыйна-музычнага зместу, у якой няма палітычных амбіцый, а ёсць толькі аб'ектыўная інфармацыя без усялякіх каментарыяў. Калі, скажам, музыка, дык толькі музыка. А, як мы ведаем, факты і музыка — гэта інтэрнацыянальна.

— І калі плануецца першы выхад у эфір праграмы радыёстанцыі "Еўропа плюс Мінск"?

— Мы планавалі пачаць радыёвяшчанне нашай радыёстанцыі ў чацвёртым квартале, але многія праблемы, што ўзнікаюць у рабоце, мабыць, крыху затрымаюць гэты працэс. Думаю, не памылюся, калі скажу, што першая перадача выйдзе ў эфір у студзені будучага года.

**Гутарыў Рыгор ПАДНЕВІЧ.**

